ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 43
красавік, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

## Валеры ГАПЕЕЎ:

# «Пісьменнікам трэба пісаць пра кнігі сваіх сяброў...»



фота www.nn.by.

**– Шаноўны Валеры Мікалаевіч, віншуем з атрыманнем літаратурнай прэміі «Залаты апостраф»–2016 у галіне прозы. Узнагарода была для Вас нечаканай? Чым гэтая прэмія каштоўная для Вас асабіста?**

– Дык з гадамі перастаеш чакаць менавіта нейкіх узнагарод, асаблівага прызнання, дый увогуле, хочацца жыць без нечаканасцей:) Шчыра – мне было вельмі прыемна. Хвалююча. Чым каштоўная гэта прэмія? Тут трэба маленькую прадмову. Гадоў 15 таму быў я на курсах павышэння кваліфікацыі, і ў выпускной працы аб ролі раёнак я акцэнтаваў увагу на тым, што раённая газета застаецца на сёння адным з астраўкоў жывой беларускасці. І вось… І вось знікла беларускае праўдное радыё. Гады тры таму мяне запрасілі ў школу ў мой Рагачоў (сам я родам з Рагачоўскага раёна). Дзіўнае было адчуванне, калі зайшоў у рэдакцыю раёнкі. Некалі я пісаў туды свае вершы і першыя замалёўкі. «Камунар» прыходзіў ці не ў кожную хату вёсачкі. Канешне ж, беларускамоўны, іначай, мабыць, і быць не магло. А цяпер я гартаў былую раёнку і не пазнаваў яе. У «Свабодным слове» (такая цяпер назва ў яе) не знайшоў і адзінага слоўца на беларускай мове… На сустрэчы з вучнямі школы бачыў і пустыя вочы – многія дзеці не разумелі маёй беларускай гаворкі. І ўпершыню за ўсе гады пра гэту сустрэчу напісалі ў газеце на рускай мове. Сказаць, што мяне перапоўніў адчай? Гэтага, мабыць мала… Ведаю, што на сёння палова раённых газет цалкам рускамоўныя, яшчэ палова – добра, калі 50 на 50. Карацей, змыліся тыя «астраўкі беларускасці», пра якія я пісаў… Што засталося? Ды адзіная выспа – Саюз беларускіх пісьменнікаў. Адзіная і сапраўдная. І вось я атрымліваю ўзнагароду за свой твор. Разам з прызнаннем ягонай якасці, гэта для мяне – нібыта афіцыйнае пасвячэнне ў лік абаронцаў гэтай выспы. Магчыма, і раней недзе падсвядома лічыў сябе такім, адстойваючы беларускую мову ў сваёй раёнцы, ствараючы творы на беларускай мове. Ды быццам быў вольны адмовіцца ад усяго. А сёння перастаць пісаць на роднай мове будзе дэзерцірствам. Здрадай. Прычым, яўнай. Карацей, тая ўзнагарода – як прыняцце прысягі ў арміі, калі назад – ніяк.

**– Вы плённа працуеце яшчэ і як літаратурны крытык. Якіх твораў Вам як чытачу не хапае ў беларускай літаратуры?**

– Ну, ніяк не крытык, ніяк. Тое, што іншы раз пішу водгукі – гэта пачуццё хутчэй абавязку перад сабой. Неяк Альгерд Бахарэвіч узняў гэтую тэму: водгукаў пісьменнікаў на сваіх сяброў. І падзяліўся плёнам года: ён напісаў водгукі на сем ці восем кніг, а на яго – два водгукі было. І заклікаў рабіць, як ён. Згадваў, што да таго ж заклікалі і нашы класікі: Стральцоў, Караткевіч.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Валеры Гапееў – пісьменнік, журналіст. Аўтар кніг «Пастка на рыцара» (2002), «Урокі першага кахання» (2010), «Ведзьміна тоня» (2012), «Я размалюю для цябе неба» (2013), «Праклён» (2013), «Ноч цмока» (2016) і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне. Жыве ў Івацэвічах.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сачанка Барыс. Выбраныя творы. Уклад. Галіны Багданавай; прадм. Уладзіміра Гнілaмёдава. – Мінск: Беларуская навука, 2017. – 636 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

У аднатомнік выбраных твораў вядомага беларускага празаіка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Барыса Сачанкі ўвайшлі самыя значныя яго аповесці і апавяданні, прысвечаныя роднаму Палессю. У раздзеле «Эсэ, публіцыстыка» пісьменнік расказвае пра асобныя моманты літаратурнага жыцця Беларусі, пра трагічны лёс многіх беларускіх пісьменнікаў.




**Петрашкевіч Алесь. Выбраныя творы. Укладанне, прадмова Лідзіі Савік; навуковы рэдактар Іван Саверчанка. – Мінск: Беларуская навука, 2017. – 604 с.: [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

Аднатомнік Алеся Петрашкевіча (1930–2012) пачынаецца самым значным яго празаічным творам «Крыніцы і каламуць», у якім аўтар шчыра расказаў пра сваё дзяцінства ў роднай вёсцы Пярэвалачня на Віцебшчыне, пра вучобу ў Белдзяржуніверсітэце, працу ў ЦК КПБ (разам з П.М. Машэравым), у БелСЭ (з П. Броўкам, І. Шамякіным) і інш. У кнігу ўключаны таксама яго найбольш цікавыя гістарычныя п’есы.




**Дубоўскі Валеры. Родавыя аскепкі неба. – Мінск: Юніпак, 2017. – 144 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 89).**

Чалавек, ідучы па зямлі, па лёсе, не-не ды пазірае на неба. Так праз зямны роздум нараджаецца паэзія.




**Вешчуны ідуць на Беларусь: зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка (2014/15, 2015/16 навучальныя гады). Пад рэд. Г. Бутырчык, М. Маляўка, С. Шаматульскага. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 268 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 90).**

Зборнік складаюць творы студэнтаў Школы маладога пісьменніка пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» 2014/15, 2015/16 навучальных гадоў.

**Комар Ганна. Страх вышыні: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 68 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

У дэбютную кніжку паэзіі Ганны Комар увайшлі выбраныя дзіцячыя і дарослыя страхі паэткі. Гэтыя вершы, народжаныя з няўмення ездзіць на ровары і спавітыя паэтыкай сэлфхарму, хвалююць, бянтэжаць, раздражняюць, пужаюць, не пакідаюць абыякавымі, абяцаюць надзею. Уважлівыя даследаванні ценяў вар’яцтва на тле кожнага кахання, сяброўства, падарожжа ці дзіцячага ўспаміну даводзяць перадусім безумоўную каштоўнасць каханых, сяброў, падарожжаў і ўспамінаў.







**Бесчастный Евгений. Стой!: стихи. – Минск: Кнігазбор, 2017. – 92 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютную кнігу Яўгена Бясчаснага склалі вершы, напісаныя ў 2011–2016 гадах. Гэта невялікія гісторыі, дзе на фоне пейзажаў Брэста і Мінска праз метафізіку сучасных рэаліяў і драматызм невырашальных канфліктаў – унутраных і вонкавых – аўтар спрабуе выказаць патайную сутнасць штодзённых з’яваў, выйсці за грань бачнага свету і зразумець сваю ролю і месца ў ім.




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXVI. № 5 Укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 260 с.**

У чацвёртым выпуску «Новага замка» надрукаваныя вершы, проза, успаміны, эсэ і публіцыстыка літаратараў Гарадзеншчыны. У раздзеле «Успаміны» Сяргей Чыгрын згадвае Алега Лойку. Пад рубрыкай «Архіў» змешчаны артыкул Аляксея Пяткевіча пра стварэнне Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў. У рубрыцы «Лёсы» друкуецца артыкул Таццяны Трафімчык «Паэт у манастыры» пра паэтычную творчасць Зніча (Алега Бембеля). У раздзеле «Памяць» друкуюцца артыкул Віктара Жыбуля пра архіў Юрыя Гуменюка, а таксама невядомыя вершы Ю. Гуменюка.




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №4, 2016. Укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 232 с.**

Чацвёрты нумар літаратурнага альманаха Гомельскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Палац» знаёміць з паэзіяй, прозай, успамінамі літаратараў Гомельшчыны. Артыкулы па гісторыі Гомельшчыны прапануюць Уладзімір Лякін, Мікола Анісавец, Леанід Кузьміч, Рыгор Серыкаў, Рыгор Клімовіч. Пад новай рубрыкай «Пяцісотгоднасць» змешчаны артыкул Канстанціна Усовіча «Подзвіг вялікага друкара» пра музей-лабараторыю Францішка Скарыны ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны. З літаратуразнаўчымі доследамі друкуюцца Ірына Бароўская і Васіль Шур.

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. №3, 2017. Укл. А. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 192 с.**

Трэці нумар літаратурнага альманаха Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Ратуша» знаёміць з паэзіяй, прозай і гумарам мясцовых аўтараў. У раздзеле «Проза» друкуюцца творы Алеся Аркуша, Франца Сіўко, Стасі Наркевіч, Марыі Баравік, Уладзіміра Міхно, Ірыны Жарнасек і інш. У раздзеле «Паэзія» публікуюцца вершы Уладзіміра Папковіча, Алены Гінько, Антона Бубалы, Лявона Няўдаха, Георгія Станкевіча і інш. Раздзел «Літаратуразнаўства» ўтрымлівае артыкул Аляксандра Лісава «Віцебскае аддзяленне літаратурнага аб'яднання "Маладняк"».




**Бюргер Готфрыд Аўгуст, Распэ Рудольф Эрых. Неверагодныя падарожжы сушай і морам, ваенныя паходы і вясёлыя прыгоды барона фон Мюнхгаўзэна, пра якія ён звычайна расказвае за бутэлькай у коле сяброў. Пер. з ням., прадм. і камент. І. Крэбса. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 144 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Кніга ўлучае пераклад «Прыгодаў барона Мюнхгаўзэна», зроблены паводле класічнай нямецкай версіі твора – другога нямецкага выдання Г. А. Бюргера 1788 года на аснове пятага ангельскага выдання Р. Э. Распэ. Упершыню на беларускай мове друкуецца поўная версія кнігі, прызначаная не для дзяцей, а для дарослых.




**Лапцэвіч Сяргей. Плошча Калумба: аповесці, апавяданні. Пер. з рус. Марыя Мартысевіч. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 192 с.**

Героі кнігі «Плошча Калумба» – збольшага людзі незвычайныя, па сутнасці, дзівакі. Філосаф-выпівоха, што калісьці ўцёк у Бруклін, марыць вярнуцца ў краіну, якой больш няма. Пахілага веку мастак адбірае ў дачкі сына, каб выхаваць у ім сапраўдны талент. Кранальная Надзя вучыць усіх простасці, ламаючы лёсы. Паспяховы менеджар спрабуе адшукаць парэштmember сэнсу ў сабе і навакольным свеце. Экзістэнцыйны кантэкст, псіхалагізм і дакладнасць дэталяў вылучаюць прозу Сяргея Лапцэвіча.




**Пінчук Яніна. Горад мрой: магічна-рэалістычныя апавяданні пра Мінск і не толькі. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 268 с. – (Час Воблы; выпуск 9).**

Часам усяго адзін крок аддзяляе ад схаванай рэальнасці – дзіўнай, незвычайнай і вабнай. Маладая пісьменніца Яніна Пінчук у сваёй дэбютнай кнізе прапануе арыгінальны погляд на Мінск: выяўляецца, у такім звыклым і быццам бы добра знаёмым горадзе можна сустрэць і чараўніка, і даўно памерлую гістарычную асобу, і зазірнуць у паралельны свет, дзе замест Беларусі існуе зусім іншая, легендарная дзяржава, яшчэ больш напоўненая магіяй...




**Панізьнік Сяргей. Гасцінцы з пуцявін-гасцінцаў: Вершы-вершаняты. Уклад. і прадм.: А. Тарасевіч. – Мінск: Тэхналогія, 2016. – 155 с., [2] арк. іл.**

У зборнік увайшлі найлепшыя вершы Сяргея Панізьніка, адрасаваныя дзецям малодшага, сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Разам з аўтарам маленькія вучні даведаюцца, дзе растуць усмешкі, атрымаюць падказкі складаць казкі і навучацца прамаўляць чароўныя словы. Школьнікі-падлеткі рушаць у паход разам з легендарным князем Боем, апрануць светлую кальчугу слова і атрымаюць пароль кавалераў Беларусі. Юнакі наведаюць хутар продкаў, спяюць бабуліны песні і назаўсёды захаваюць у сэрцы запаветы Скарыны. Аднак дарослым кніга таксама прыдасца: каб з дапамогай непаўторнага аўтарскага гукапісу і арыгінальных вобразаў наноў ажывіць Памяць-Кварту і папоўніць запас жыцця.




**Горват Андрусь. Радзіва «Прудок»: дзённік. – Мінск: Медысонт, 2017. – 248 с.**

Журналіст, дворнік, дармаед, гаспадар, пісьменнік. Аўтар гэтай кнігі – чалавек, які шукае сваё месца ў гэтым свеце. Такім месцам магла б стаць утульная рэдакцыя сталічнага часопіса або модны хіпстарскі каворкінг. Але стала дзедава хата на Палессі, на ўскрайку Беларусі, на перакрыжаванні сусветаў. Гэта кніга не пра тое, як аднавіць напаўразбураны дом, саджаць агарод, даіць казу, жыць у вёсцы і не спіцца. Гэта кніга пра тое, як аднавіць напаўразбуранага сябе. Можа быць, яна пра тое, як вярнуцца да каранёў, да роднай моўнай і культурнай стыхіі і пра тое, як важна не згубіць бабуліны аповеды. А можа, пра тое, як стаць сваім для самога сябе.




**Шчэрба Людміла. Урб@н.М: Адзін дзень не майго жыцця. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 286 с.: іл.**

У горадзе М. сустракаюцца героі нашага часу – Макс і Ганна, і ўсе іх прыгоды пачынаюцца з... яблыка. Аўтар прапаноўвае некалькі варыянтаў развіцця далейшых падзеяў. Гэта «раман у рамане» – адзін напісаны аўтарам, другі – героем. Прычым чытаць можна з любой часткі! Падзеі рамана ахопліваюць два адрэзкі часу: 1642–1654 і 2012–2014 гг.

Для аматараў эстэцкіх аповедаў, прыхільнікаў постмадэрнізму, ахвотнікаў да любоўных гістарычных і негістарычных раманаў, заўзятараў філасофскай прозы.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Гамсун Кнут. Голад: збор твораў. Пер. з нарв. Лявона Баршчэўскага, Лідзі Ёхансэн. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 364 с. – (Серыя «Noblesse Oblige»).**

У кнігу знакамітага нарвежскага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі 1920 года Кнута Гамсуна (1859–1952) увайшлі тры сусветна вядомыя раманы. «Голад» – гісторыя маладога валацугі, чыя свядомасць спазнае страшэнную метамарфозу ад галоднага існавання. Гэты наватарскі твор прынёс аўтару еўрапейскую вядомасць. «Пан» – лірычны аповед пра веліч прыроды і трагедыю неўзаемнага кахання. «Вікторыя» – пранікліва раман пра чуллівае і пяшчотнае каханне, якое суправаджаюць гонар і годнасць, хвароба і смерць...




**Тучкава Катэржына. Жыткаўскія багіні: раман. Пер. з чэшск. Святланы Рогач. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 412 с.**

Высока сярод карпацкіх грудоў здаўна жылі жанчыны, адораныя надзвычайнымі здольнасцямі. Яны ўмелі лячыць, дапамагалі парадамі ў душэўных пакутах, умелі прадказваць будучыню. Іх называлі багінямі, і сваё мастацтва яны перадавалі з пакалення ў пакаленне. Дора Ідэсава – апошняя з іх роду. Аднак іх майстэрства яна не пераняла, вывучылася на этнографа і вырашыла напісаць пра іх навуковае даследаванне. У канцы 90-х гадоў у архіве МУС яна адшуквае тэчкі, сабраныя дзяржбяспекай на ворага народа, яе цётку Сурмэну...




**Капусцінскі Рышард. Чорнае дрэва. Афрыканская ліхаманка. Пер. з польск. Яўгена Салейчука. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 348 с.**

Народжаны ў беларускім Пінску, Рышард Капусцінскі – легенда польскай рэпартажнай журналістыкі, вандроўнік і пісьменнік, вядомы ва ўсім свеце. Час, апісаны ў гэтай кнізе, – пераломны для асэнсавання свайго шляху і ўласнага месца ў жыцці чалавецтва. Кніга пра крывавыя рэвалюцыі, выпадковыя перамогі і паразы, расавы антаганізм, голад, эпідэміі, карупцыю, галечу. І пра невымоўную прагу жыцця.




**Шляпікас Альвідас. Бог дажджу. Навэлы. Пер. з літоўск. Сюзанна Паўкштэла. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 174 с.**

Альвідас Шляпікас, вядомы літоўскі паэт, пісьменнік, актор, рэжысёр і сцэнарыст, упершыню завітвае да беларускіх чытачоў сваёй прозай – тонкай, лаканічнай, гранічна трапнай і глыбокай, як возера з нашых легендаў. 9 навэлаў – нітак аднае грыбніцы магічнага рэалізму ўтвараюць адзіную прастору, безназоўную і адчайна знаёмую. Вітаем вас у нашым літаратурна-шчымлівым ды вяскова-вечным Макондa.




**Кітс Джон. Выбранае. Пер. з англійскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 92 с. (Паэты планеты).**

Джон Кітс (1795–1821) – адна з найбуйнейшых – побач з Джорджам Байранам і Пэрсі Шэлі – постацяў у другім пакаленні англійскіх рамантыкаў, хоць творчы перыяд, калі публікаваліся яго творы, цягнуўся ўсяго чатыры гады.




**Гарсія Лорка Федэрыка. Выбранае. Пер. з іспанскай Рыгора Барадуліна. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 104 с. (Паэты планеты).**

Федэрыка Гарсія Лорка (1898–1936) – выдатны іспанскі паэт, які непаўторным чынам увасобіў у багатай на жанры лірыцы сваё захапленне музыкай, жывапісам і андалузскім фальклорам. Пераклады Рыгора Барадуліна, выкананыя ў супрацоўніцтве з Карласам Шэрманам, належаць да беларускай класікі паэтычнага перакладу XX ст.




**По Эдгар. Выбраныя вершы. Пер. з англ. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 76 с. (Паэты планеты).**

Эдгар Алан По (1809–1849) – амерыканскі празаік, паэт, эсэіст, вынаходнік дэтэктыўнай навелы, заснавальнік жанру жахаў, крытык і адна з вядучых постацяў амерыканскага рамантызму. У зборніку прадстаўленыя пераклады, якія раней друкаваліся ў зборніку «Маска Чырвонае Смерці», а таксама вершы, што ў паэтычную частку зборніка не ўвайшлі. Пераклад верша «Вясельная балада» друкуецца ўпершыню.




**Зюскінд Патрык. Парфума: Басэтля. Пер. з ням. мовы Васіля Сёмухі. – Мінск: Зміцер Колас, 2017. – 244 с. – (Littera scripta).**

Кніга змяшчае два найбольш вядомыя творы нямецкага пісьменніка Патрыка Зюскінда (нар. у 1949 г.), якія прынеслі аўтару сусветную славу. Адрасуецца шырокай чытацкай аўдыторыі.




**Зьміцер Бартосік. Быў у пана верабейка гаварушчы... (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. – 326 с.: іл.**

У гэтай кнізе няма агульнавядомых фактаў і амаль няма вядомых сюжэтаў. Аўтар сабраў разам гісторыі, пра якія сведкі адважыліся распавесці толькі напрыканцы жыцця. Тым не менш, факты і сюжэты складаюцца ў карціну Беларусі XX стагоддзя, і нельга сказаць, што гэтая карціна няпоўная або няпраўдзівая.




**Мельнікаў Ігар. Забытыя героі: Жаўнеры з Беларусі ў Другім польскім корпусе і Першай польскай асобнай паветрана-дэсантнай брыгадзе. – Мінск: «Альфа-кніга», 2017. – 128 с.**

Кніга прысвечаная гісторыі ўдзелу беларусаў у барацьбе з нацызмам у складзе Польскіх узброеных сілаў на Захадзе. Аўтар на падставе шматлікіх унікальных архіўных матэрыялаў паказвае лёс звычайных жаўнераў Другога польскага корпусу, а таксама Першай асобнай польскай паветрана-дэсантнай брыгады. Выданне багата ілюстраванае фотаздымкамі з архіва аўтара.




**Смалянчук Аляксандр. «Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі: зборнік навуковых артыкулаў. – Мінск: Зміцер Колас, 2017. – 460 с.**

Матэрыялы зборніка прысвечаныя феномену «краёвай ідэі» або «краёвасці», якая на пачатку ХХ ст. на тэрыторыі «гістарычнай Літвы» была пэўным ідэалагічным канкурэнтам дамінуючай нацыянальнай ідэі ў этнакультурным варыянце. У цэнтры ўвагі даследаванне ўзаемадачыненняў краёвасці і беларускай ідэі. Зборнік складаецца з дапрацаваных артыкулаў 1994–2016 гг., а таксама новых даследаванняў і перакладаў тэкстаў Рамана і Канстанцыі Скірмунтаў, Баляслава Ялавецкага (1904–1906). Таксама публікуюцца тэксты «беларускіх краёўцаў» Антона Луцкевіча і Казіміра Шафнагля (1914–1917).




**Лепельшчына: краязнаўчы альманах. Укладальнік Валерый Тухта. – Мінск: Медысонт, 2016. – 214 с. – (Patria Super Omnia).**

У выданні змешчаны навуковыя артыкулы, краязнаўчыя даследаванні, дакументы і фотаздымкі па гісторыі і культуры Лепельшчыны і суседніх рэгіёнаў. Пераважная большасць матэрыялаў, якія адлюстроўваюць розныя бакі жыцця нашых продкаў ад старажытнасці да нашых дзён, друкуецца ўпершыню.




**Праблемы аховы і інтэрпрэтацыі помнікаў гісторыі і культуры, грамадска-дзяржаўнае партнёрства: матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі – Мінск: Зміцер Колас, 2016. – 144 с.**

У зборніку змешчаны матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі «Праблемы аховы і інтэрпрэтацыі помнікаў гісторыі і культуры, грамадска-дзяржаўнае партнёрства», якая адбылася 30 красавіка – 1 мая 2016 г. у агратурыстычным комплексе «Наносы-Наваселле» і была арганізавана грамадскім аб'яднаннем «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры», а таксама некаторыя іншыя матэрыялы, напрацаваныя за апошні перыяд дзейнасці грамадскага аб'яднання. Прадстаўленыя матэрыялы закранаюць шырокі спектр праблемаў, звязаных з аховай і інтэрпрэтацыяй гісторыка-культурнай спадчыны, правядзення комплексных навуковых вышуканняў і рэстаўрацыйна-аднаўленчых працаў на помніках гісторыі і культуры.




**Церашковіч Павел. Польшча: краіна і людзі (Геаграфія Польшчы). – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016 – 144 с. [іл.].**

Кніга вядомага беларускага навукоўца, спецыяліста ў галіне культурнай антрапалогіі і сучаснай гісторыі Паўла Церашковіча – першая спроба даць сістэмнае апісанне фізічнай і сацыяльна-эканамічнай геаграфіі нашай найбліжэйшай краіны-суседкі. Выданне ілюстравана картамі, схемамі, фотаздымкамі. Можа выкарыстоўвацца як дапаможны матэрыял на факультатыўных занятках і ў гуртках у навучальных установах Беларусі.




**Колас Вольга. Выяўленчае мастацтва і беларуская нацыянальная ідэя. – Мінск: Зміцер Колас, 2016. – 192 с.**

У кнізе распавядаецца пра ролю выяўленчага мастацтва ў фарміраванні беларускай нацыянальнай ідэі і беларускай дзяржаўнасці, а таксама пра тое, як адбываліся аналагічныя працэсы ў некаторых іншых краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца пытаннямі беларускага мастацтва.




**Миронова Ленина. Краткая история живописи Беларуси. XVI век – начало XX века. Под общей редакцией А.Е. Тараса. Минск: Харвест; 2016. – 288 с. (+вкл. 48 с.),: ил.**

Кніга прысвечана старой Беларусі, захаванай на палотнах мастакоў чатырох стагоддзяў – з XVI стагоддзя і да рэвалюцыі 1917 года. Прыведзены біяграфічныя звесткі пра мастакоў, сюжэты іх твораў, адзначаныя асаблівасці шэрагу карцінаў.




**Русецкі Уладзімір. Пастар Станіслаў Нядзьвецкі і евангельскае прабуджэнне на паўночным захадзе Беларусі. – Мінск: Пазітыў-цэнтр, 2017. – 288 с.: іл.**

Кніга Уладзіміра Русецкага ўяўляе сабой даследаванне біяграфіі пастара Станіслава Нядзьвецкага (1890–1943(?)) – аднаго з лідараў евангельскага руху 1920-х – 1930-х гг. на паўночным захадзе Беларусі. Кніга напісана на аснове шырокага кола дакументаў і матэрыялаў і з'яўляецца першым у нашай краіне аўтарскім даследаваннем біяграфіі пратэстанцкага пастара ў кантэксце вялікага евангельскага прабуджэння 1920-х – 1930-х гг. у Заходняй Беларусі.




**Арлоў Уладзімір. Барыс Райскі: Дырыжор, артыст, маэстра. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Барыс Райскі (1915–1993) – выдатны музычны дзеяч Беларусі. На працягу 27 гадоў (1961–1988) ён быў дырыжорам і мастацкім кіраўніком аркестра Дзяржаўнага камітэта тэлебачання і радыё БССР. Аркестр Райскага выканаў усе без выключэння выдатныя творы беларускай музычнай культуры і запісаў іх фанаграмы для нашчадкаў.




**Астапенка Анатоль. Ларыса Геніюш: Сумленне і гонар нацыі. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Ларыса Геніюш (1910–1983) – выдатная беларуская паэтка, удзельніца нацыянальнага руху, вязень ГУЛАГа ў 1948–1956 гг. Паэтычнай творчасці паэткі характэрныя цнатлівы лірызм, глыбокая народнасць, моцныя хрысціянскія і нацыянальна-патрыятычныя матывы. Акрамя таго Геніюш пакінула пасля сябе цікавыя мемуары і велізарную эпісталярную спадчыну.




**Атрибуция, экспертиза и реставрация предметов XVI–XIX веков из собраний музеев: материалы международной научно-практической конференции (Мирский замок, 21–22 апреля 2016 г.). «Музей «Замковый комплекс «Мир»; науч. ред. И.Н. Скворцова. – Мир: учреждение «Музей «Замковый комплекс «Мир», 2016. – 206 с.**

У зборніку прадстаўлены матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Атрыбуцыя, экспертыза і рэстаўрацыя прадметаў XVI–XIX стагоддзяў са збораў музеяў». Пытанні, звязаныя з метадалогіяй і навуковай музейнай працай па атрыбуцыі і рэстаўрацыі твораў XVI–XIX стагоддзяў, знайшлі сваё адлюстраванне ў змешчаных у выданні навуковых дакладах. У працы канферэнцыі прынялі ўдзел гісторыкі, мастацтвазнаўцы, музеязнаўцы, рэстаўратары з Беларусі, Літвы, Расіі і Украіны.

Матэрыялы канферэнцыі будуць цікавыя музейным супрацоўнікам і студэнтам, якія навучаюцца па адпаведных спецыяльнасцях.




**Урбан Томас. Катынь, 1940 год. Гісторыя аднаго злачынства. Пераклад з нямецкай мовы Сяргея Паўлавіцкага. – Смаленск: Інбелкульт, 2016. – 175 с.**

Адказнасць за расстрэл польскіх афіцэраў у Катынскім лесе савецкія ўлады ўсклалі на немцаў. Тыя, у сваю чаргу, хацелі скарыстацца гэтымі забойствамі як унікальным шанцам пасварыць між сабою саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. Абапіраючыся на шырокую базу крыніцаў, Томас Урбан рэканструюе адпаведныя падзеі і іх перадгісторыю, а таксама задаецца пытаннем пра рэха, якім дагэтуль адгукаецца гэтае злачынства.




**Санько Зьміцер. А як па-беларуску? Прыказкі, прымаўкі, фраземы: даведнік-мінімум. – Мінск: Тэхналогія, 2016. – 16 с.**

Рыхтуючы гэтую кніжку, аўтар меў на мэце паказаць харавство і адметнасць беларускіх прыказак і прымавак. Адрасуецца ўсім, хто імкнецца да чысціні сваёй гаворкі, да вобразнасці і трапнасці ў штодзённым маўленні.




**Санько Зьміцер. 125 папулярных выслоўяў: падарожны даведнічак. – Мінск: Тэхналогія, 2016. – 16 с.**

Рыхтуючы гэтую кніжку, аўтар меў на мэце паказаць харавство, адметнасць і багацце роднай мовы ў галіне выслоўяў. Для ўсіх, хто імкнецца да чысціні сваёй гаворкі, да вобразнасці і трапнасці ў штодзённым маўленні.




**Літвіноўская Алеся. Мова Нанова: 20 крокаў да беларускай мовы. 2 частка. – Мінск: Медыял, 2017. – 228 с. + 12 іл.**

Выданне «Мова Нанова: 20 крокаў да беларускай мовы. 2 частка» падрыхтаванае выкладчыкамі курсаў «Мова Нанова» Алесяй Літвіноўскай і Глебам Лабадзенкам. Аснову склалі матэрыялы з заняткаў, «апрабаваныя» ў 10 гарадах Беларусі. У кнізе робіцца ўхіл у практычнае выкарыстанне беларускай мовы, таму большасць слоўнікавых словаў мае прыклады ўжывання. Апроч таго, кожныя заняткі маюць граматычны дадатак і заданні для самаправеркі. Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by, halijafy.by і e-kniga.by.

■ ІМПРЭЗЫ

# Стыпендыя імя Магдалены Радзівіл уручаная

**27 сакавіка ў офісе ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» адбылося першае ўганараванне аўтарак стыпендыяй для пісьменніц і перакладчыц. У гэтым годзе стыпендыяткамі сталі Таццяна Барысік, Алена Брава і Дар'я Ліс.**

У віншавальным слове Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч адзначыў, што ідэя падобнай стыпендыі для пісьменніц і перакладчыц выспявала ўжо даўно: «Калі сярод 18-ці і 20-гадовых пачаткоўцаў мы бачым большасць дзяўчат і меншасць хлопцаў, то з цягам часу, з развіццём пісьменніцкіх пакаленняў, гэтая колькасная суаднесенасць мяняецца. Хочацца, каб болей дзяўчат заставалася ў літаратуры. Спадзяемся, стыпендыя будзе ўручацца штогод, паколькі дастойных кандыдатак шмат, і сябрам Рады стыпендыі няпроста было зрабіць выбар».



Алена БРАВА, Таццяна БАРЫСІК, Дар'я ЛІС.

Празаік Алена Брава прызналася, што ўжо некалькі гадоў піша новы твор і спадзяецца ў хуткім часе завяршыць працу: «Жывучы ў невялікім горадзе, жанчына сутыкаецца з неразуменнем грамадскасці: чаму ёй неабходны вольны час для пісьменніцкай працы, калі ёй патрэбна вырашаць бытавыя пытанні? Часта адзіным выйсцем для ажыццяўлення творчых задумаў становіцца праца за камп'ютарам па начах».

**Прэсавая служба СБП**

■ АЎТОГРАФ

# «Пісьменнікам трэба пісаць пра кнігі сваіх сяброў...»

*(Пачатак на стар. 1)*

Насамрэч жа, часам выходзіць кніга, добрая, патрэбная, а пра яе – ні слоўца пасля выхаду. Ведаю, як гэта бывае крыўдна аўтару. Таму – пішу. Прызнаюся – далёка не на ўсё, што прачытаю. Ляжа на сэрца, як кажуць, будзе водгук. Не спадабаецца – прамаўчу. То на часопісную публікацыю варта глядзець як на матэрыял, які можна палепшыць. А вось кніга, як выйшла, гэта ўжо не паправіць. І ўказваць аўтару на яе недахопы няма сэнсу. Будзе магчымасць – выкажуся ў прыватнай размове. Канешне, гэта вельмі няпроста для творчага чалавека – шчыра парадавацца за поспех іншага. Але можна навучыцца, далібог.

Якіх кніг не хапае асабіста мне? Пра сучаснасць. Пры гэтым, вялікай формы. Пэўна ж, мы насыціліся малой формай, якую нарадзіў яшчэ Жывы Часопіс, дадаў жыцця Фэйсбук. Не адмаўляю такой форме ў праве на існаванне, але ж і раманаў хочацца ад вядомых аўтараў. Паўтаруся: пра сучасніка і сучаснасць. Мы жывём на такім зломе… Быў у нас свой свет, вялікі і моцны, ды насамрэч гэта была вяршыня айсберга. І раптам гэты айсберг перавярнуўся – і мы сталі жыць на іншым яго баку, пра які толькі чулі нешта крыху… Такая вось думка. Калі ўжо спыталі, дык скажу і пра тыя кнігі, якіх бы не хацеў бачыць. На жаль, пачасціліся выпадкі выдання кніг без належнай рэдактуры. Чытаеш, спатыкаешся на русізмы, элементарную непісьменнасць, груваткасць сказаў, няўцямную мову. Так крыўдна… Мова павінна альбо зусім не заўважацца ў кнізе, альбо быць самастойным героем. У любым выпадку, так прыкра з-за некаторых кніг і аўтараў. А яшчэ пасля і піярыцца такая кніга як адмысловая, арыгінальная ці яшчэ там нейкая… Выдавецтвам трэба быць больш патрабавальнымі, і хай бы самі выдавецтвы пабойваліся выдаваць непісьменныя рэчы… Дзіўна, калі няма адказнасці ні ў аўтара, ні ў рэдактара, ні ў выдаўца…

**– Вы напісалі шмат твораў для дзяцей і падлеткаў. На сваёй старонцы ў інтэрнэце (http://gapeev.brest.by) Вы адказваеце на пытанні чытачоў, даяце ім парады, а таксама на сайце можна прачытаць Вашыя творы. Якія пытанні найчасцей хвалююць сучасную моладзь?**

– Тыя ж, што і заўсёды, што хвалявалі нашых бацькоў, нас саміх, – адносіны. Адносіны між сябрамі, між падлеткамі і настаўнікамі, між падлеткамі і бацькамі. Пачуцці. Адчуванне сябе асобай, сваё асабістае станаўленне. Разуменне сябе асаблівым чалавекам, адчужэнне ад натоўпу, набыццё выключнага «я». Нічога новага, расчарую дарэшты. Але ў гэтым «старым» – самыя складаныя пытанні росту і развіцця асобы, да таго ж, цяперашнія дзеці не ўваходзяць у жорсткі дарослы свет пакрысе, як мы, а скачуць туды са сваім першым смартфонам. Ім адкрываецца ўсё і адразу: увесь бруд, усе жахі, усе здрады і ўсе заганы чалавечай душы. Паспрабуйце захаваць у гэтым усім самога сябе…

**– Якую кнігу з тых, што Вы прачыталі нядаўна, параілі б пашукаць у кнігарнях і бібліятэках чытачам «Кніганошы»? І ўвогуле – як зацікавіць сучасную моладзь чытаць кніжкі?**

– Вось з самага нядаўняга, спецыяльна для мужчын: «Урб@н.М» Людмілы Шчэрбы. Але каб толькі прачыталі да канца, набраліся цярпення, смеласці, пазбавіліся пачуцця неабходнасці ўсё зразумець сваёй мужчынскай логікай – і прачыталі. Гэта кніга пра тое, як думае жанчына, як адчувае… Раней нічога падобнага не сустракаў. Таксама з самага свежага – «Плошча Калумба» Сяргея Лапцэвіча. Добрая рэч, незвычайная ідэя і думка аўтара.

Наконт сучаснай моладзі… Трэба пісаць і для іх! Недзе і мэтанакіравана. Увогуле, прывіваць любоў да чытання найлепш з дзяцінства, вядома. Трэба кнігі для падлеткавага ўзросту… І вельмі важна вось што яшчэ: рэклама. Але толькі праўдзівая рэклама, ад аўтарытэтных людзей. Рэклама-парада. Сёння ж назіраецца зусім іншае: агрэсіўны піяр далёкай ад дасканаласці літаратуры, усялякія топы продажаў, за якімі – сем тайнаў, але яны ж гэтаксама нараджаюць попыт, і ў поўнай прастрацыі іншы раз ад тых кніг, якія ў гэтыя топы трапляюць. Значыць, самім пісьменнікам трэба пісаць пра кнігі сваіх сяброў, расказваць пра іх. Менавіта пра добрыя кнігі.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Багдановіч Ірына. Залатая горка. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 80). – 400 с.**

«Залатая горка» – выбранае паэткі і літаратуразнаўцы Ірыны Багдановіч. У кнігу ўвайшло колькі новых вершаў і перакладаў з польскай мовы, але найбольшую частку абымаюць літаратуразнаўчыя даследаванні, якія пераважна публікаваліся ў спецыялізаваных зборніках – матэрыялах канферэнцый, кангрэсаў – а таксама выходзілі ў перыядычным навуковым друку.

Артыкулы добра высвечваюць дыяпазон навуковых зацікаўленняў Ірыны Багдановіч, тэмы, якія яна апрацоўвала ў апошнія гады. Дамінантай кнігі з'яўляецца тэма духоўных пошукаў: праз гэтую прызму разглядаецца, што зусім зразумела, творчасць пісьменнікаў – каталіцкіх святароў Казіміра Сваяка і Вінцука Адважнага. Але і па-за непасрэдна каталіцкімі пісьменнікамі праблема духоўнасці аналізуецца праз, напрыклад, выяўленне хрысціянскіх вобразаў храма, Маці Божай, Вялікадня, абраза Маці Божай Вострабрамскай, Ефрасінні Полацкай у палітры беларускай літаратуры XIX–XX стагоддзяў.

Кніга «Залатая горка» станецца сапраўдным падарункам для тых, хто хоча спазнаць хрысціянскую аснову беларускай літаратуры мінулага стагоддзя, цікавіцца польскамоўнай літаратурай Беларусі, адлюстраваннем гістарычных вобразаў у айчыннай паэзіі.




**Міхась Скобла. Саркафагі страху: прознае. Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 84). – 392 с.**

Гэта творчая справаздача за апошнія дзесяць з лішкам гадоў літаратурнай працы, у тым ліку і як палеміста, і як гісторыка літаратуры, укладальніка шэрагу кніг спадчыны беларускіх аўтараў. Як блогер Міхась Скобла выбірае тэмы прыкметных праяваў абсурду ў сучаснай дзяржаўнай культурнай палітыцы – недабудаванасць нацыянальнага праекту і вечная асцярожнасць дзяржаўнай ідэалогіі, дваістасць стаўлення да беларускага ў беларускіх дэ-юрэ ўладаў, пастаяннае ігнараванне найвыдатнейшых постацей айчыннай культуры. Шмат старонак у кнізе аддадзена ўспамінам пра нядаўна адышоўшых аўтараў Беларусі і Украіны: Змітра Сідаровіча, Івана Лепешава, Уладзіміра Дамашэвіча і інш. Знаходзіцца месца і водгукам на зборнікі вершаў і гістарычныя даследаванні, падарожным нарысам.

Немалая частка кнігі прысвечана Ларысе Геніюш, што і зразумела: якраз у апошняе дзесяцігоддзе спадар Міхась стаўся найбольш вядомым даследчыкам зэльвенскай аўтаркі. Шматгадовая праца над біяграфіяй і творчасцю Геніюш спарадзіла безліч назіранняў, адкрыццяў – яны адлюстраваны ў найбольш аб'ёмным тэксце кнігі «Чайка з лётам арліным».

Напісаныя выдатным стылістам, эсэ Міхася Скоблы стануць добрым падручнікам беларускай мовы для тых маладых журналістаў, хто толькі пачынае пісаць і прадумваць свае першыя аналітычныя артыкулы.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 43
красавік, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 43 25.05.2017.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com